 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (685) 13 КРАСАВІКА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

### ПЕРАД КАНФЕРЭНЦЫЯЙ

У Сакольскім павеце ўжо ва ўсіх гуртках Беларускага таварыства адбыліся справаздачна-выбарчыя сходы.

● У Новым Востраве члены БГКТ пасля абмяркоўкі працы гуртка выбралі новае праўленне. Старшынёй яго з'яўляецца далей Іван Грыц, сакратаром Яніна Мякіш і скарбнікам — Іван Белабокі. На канферэнцыю аддзела, якая адбудзецца 20 красавіка, паедзе Яніна Мякіш і Уладзімір Парфенюк.

● На справаздачна-выбарчы сход гуртка Беларускага таварыства ў Слоі прыбыло 15 асоб. Трох членаў БГКТ не прысутнічала. Прысутныя пастанавілі: шырэй разгортваць аматарскі рух, дабіцца таго, каб іх клубакавярня вяла культурна-асветную працу, і ў сувязі з 25-годдзем народнай улады ўключыцца ў дарожны грамадскі чын. Сход закончыўся выбарамі новага праўлення гуртка і дэлегатаў на канферэнцыю. І так, на старшыню выбраны Сяргей Малішэўскі, на сакратара — Іван Хомік, а на скарбніка — Іван Фідзюкевіч. Прадстаўляць слаянскі гурток на канферэнцыі аддзела будуць: Іван Хомік і Міхал Пятроўскі.

● Гурток БГКТ у Ласінянах пастанавіў актыўна ўключыцца ўсім членам у выбарчую кампанію ў Сейм і рады нарадовыя, а таксама ўрачыста адзначыць 25-ую гадавіну народнай улады ў Польшчы. Пасля гурток выбраў новыя ўлады, у склад якіх увайшлі: Кірыл Авечка (старшыня), Люба Раманюк (сакратар) і Міхась Ярош (скарбнік).

### У БЕЛЬСКІМ ПАВЕЦЕ

Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Бельскага аддзела адбудзецца таксама 20 красавіка. У сувязі з гэтым ужо ва ўсіх гуртках Беларускага таварыства праведзена справаздачна-выбарчыя сходы і выбраны новыя праўленні, а таксама дэлегаты на канферэнцыю. Нядаўна адбыліся сходы Беларускага таварыства ў вёсках Грыгароўцы і Кашалі.

● У Грыгароўцах члены нашага таварыства на сходзе гаварылі аб пакупцы супольнага тэлевізара. Старшыня сельскагаспадарчага гуртка, забіраючы голас у дыскусіі, заявіў, што іх праўленне перакажа на тэлевізар 5 тысяч злотых. Рэшту грошай моладзь здабудзе шляхам арганізацыі цікавых мерапрыемстваў.

Пасля абмяркоўкі недахопаў у працы гуртка, а таксама далейшых напрамкаў дзейнасці было выбрана новае праўленне. Узначаліла яго дагэтулашняя старшыня гуртка вясковых гаспадынь Валянціна Радзівонюк. У праўленне гуртка выбраны таксама: Раіса Крот і Алег Семянюк. На канферэнцыю аддзела паедзе Валянціна Радзівонюк і Зіна Ткачук.

● Гурток БГКТ у Кашалях налічвае 24 члены. Гэта ў асноўным моладзь. Хлопцы і дзяўчаты многа гаварылі аб тым, што неабходна арганізаваць мастацкі калектыў з беларускім рэпертуарам і каб гэтым самым прычыніцца да зацікаўлення моладзі культурна-асветнай працай. Прысутныя падкрэслівалі дрэнную з'яву, якою з'яўляецца адмова некаторых асоб з прыналежнасці да БГКТ з моманту выхаду замуж або жаніцьбы. Датуль актыўны той ці іншы сябра, пакуль не ажэніцца. А калі ажэніцца або выйдзе замуж, дык тады ўжо нічым не цікавіцца. У склад новага праўлення прысутныя выбралі Сцяпана Гаворку, Ірыну Гаворку і Міколу Галоўню.

мх



Будынак Сейма ПНР. Паслы ідуць на пасяджэнне.




I

Непадалёк славутых варшаўскіх Лазенак, на Гурнашлёнскай вуліцы, месціцца будынак сейма — найвышэйшага заканадаўчага органа ПНР. Вялікую і складаную гісторыю перажыў сейм, перш чым стаў органам сапраўднага народаўладства.

Вось адзін з першых сеймаў (Пётркуў, 1496) пастанавіў, што селянін не можа пераносіцца з месца на месца, значыць адабраў яму асабістую свабоду. Адабраў таксама мяшчанам права займання высокіх пасад і куплі зямельных маёнткаў. З гэтай пары зямля можа быць толькі ўласнасцю караля, шляхты і касцёла.

Шляхта ў наступленні. Найбольшай яе здабычай — канстытуцыя nihil novi («нічога новага») з 1505 г. З гэтай пары кароль не мог выдаць ніякага закону без згоды сейма.

Сейм складаўся з дзвюх палат: сената і палаты пасольскай. Магнацкі сенат узнік з дварцовага савета караля, а члены яго былі пажыццёвыя. Уваходзілі сюды: прымас і ўсе каталіцкія епіскапы (праваслаўных не дапускалі), канцлеры, падскарбія, ваяводы, каштэляны. Сенат выконваў толькі функцыю дарадчую, сапраўдная заканадаўчая ўлада належала да пасольскай палаты, гэта значыць дэлегатаў шляхты. Сейм звычайны збіраўся кожныя два гады. Старшынстваваў тут маршалак з выбару. Прыняццё законаў у тэорыі мела адбывацца аднадушна. У палове XVII стагоддзя было гэта выкарыстана ў зрыванні сеймаў адным голасам (liberum veto).

У 1520 годзе ўведзена паншчыну, у 1532 — забарону перахоўваць у гарадах сялян-уцекачоў і прысвойвання ім гарадскіх правоў, у 1543 — забарону выкупляцца з падданства. Цяпер селяніну не мог памагчы яго маёнтак, уцекача пан мог прымусіць вярнуцца нават пасля некалькіх дзесяткаў год, правы яго ніколі не перадаўняліся. Прорва паміж станамі павялічваецца. У 1562/1563 годзе пётркаўскі сейм прымае рашэнне т.зв. экзекуцыі маёмасцей. Усе каралеўскія маёмасці, якія пасля 1504 года былі раздзелены, мелі быць звернуты дзяржаве. Гэта быў удар у магнатаў.

Пасля смерці апошняга Ягелона вырашана, што ў часе міжцарства ўзна-

Працяг на стар. 4

Хацелася б быць птушкай, каб паляцець над палямі, над вёскамі, над лугамі нашай Беласточчыны, каб прысесці на прыаконніку сялянскай хаты, паглядзець, паслухаць, што чуваць у людзей, што змянілася ў іх жыцці.

Чатыры гады таму назад, калі ўся краіна рыхтавалася да выбараў, мы глядзелі ў будучыню, стараліся здагадацца, якое жыццё будзе ў нас сёння. Эканамісты лічылі, складалі планы.

Дык пара паглядзець, ці споўніліся нашы спадзяванні, ці рэальнымі былі абяцанні эканамістаў.

Першае, што бачу, гэта шырокія сялянскія нівы. Намнога менш вузенькіх палосак. Звыш 60 тысяч гектараў зямлі было скамасавана ў 1965/1968 гадах. Гэта многа. Тут абяцанні перавыпаўнены з надбаўкай. Патрэбы аднак яшчэ большыя. Дык працы хопіць на 5—6 год.

Пада мною чорнай лентай ляжыць




дарога. З Кляшчэляў у Гайнаўку і Бельск, з Тыкоціна ў Златорыю, з Ліпска ў Штабін. Гэтымі дарогамі чатыры гады таму назад цяжка было праехаць. І не толькі гэтымі. За той час пабудавана, або адрамантавана звыш 300 км дзяржаўных дарог і амаль 450 км дарог мясцовага, унутранага значэння.

Дарогі, добрыя, цвёрдыя, роўныя дарогі патрэбны зараз усім. Вось паявіліся на іх сялянскія вазы-балоны высока гружаны мяшкамі. Вязуць збожжа на скупачны пункт мясцовага ГС-у. Многа збожжа. На 8 тысяч тон больш, як у 1965 годзе. На іншым возе сярэбрацца ў раннім сонцы банькі з малаком. Нашы гаспадыні надаілі яго і прадалі дзяржаве аж на 70 мільёнаў літраў больш, як чатыры гады таму назад.

Пад вечар сяляне вяртаюцца дамоў. Зноў коні напружана цягнуць вазы. На вазах — суперфасфат, тамасына, азатняк і іншыя штучныя ўгнаенні. Няма ўжо клопату з іх пакупкай. Бяры колькі хочаш. Нават на крэдыт. Клопат толькі ў тым, што не ўсе сяляне хочуць іх браць. Тут нават раўняць няма да чаго. Дасягнутае перавысіла найбольш смелыя спадзяванні.

На аўтобусным прыпынку людзі гурбой высыпаліся з пузатай аўтамашыны. З мястэчка ў вёску было ўсяго некалькі кіламетраў. Можна пехатой, як калісьці хадзілі бацькі. Але навошта, калі можна аўтобусам. Хутчэй і выгадней. Такім чынам Беластоцкі ПКС у 1968 годзе амаль на 11 мільёнаў больш перавёз пасажыраў, як у 1965 годзе.

Дарогі патрэбны спапавязалкам, аб-

Працяг на стар. 4



Велікоднае яйка з найлепшымі пажаданнямі шле сваім чытачам «НІВА».

 

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### СУСТРЭЧА ЧАТЫРОХ

Згодна з прадбачваннямі, аб якіх мы пісалі ў папярэднім нумары, у чацвер, 3 красавіка г.г., адбылася першая кансультацыйная сустрэча 4 дзяржаў (СССР, Францыі, ЗША і Вялікабрытаніі) у справе сітуацыі на Блізкім Усходзе.

Напамінаем, што амаль адначасова з заклікам да такой канферэнцыі выступіла Францыя і СССР. Потым да гэтай ініцыятывы прыхілілася Вялікабрытанія і ўрэшце, як апошні, урад Злучаных Штатаў.

Тым часам сітуацыя на Блізкім Усходзе стаецца штораз больш напружанай. Як вядома, Ізраіль супраціўляецца ўсім пастановам Савета Бяспекі, у якіх гаворыцца, што Ізраіль павінен вярнуцца да сітуацыі, якая была перад ізраільска-арабскай вайною. На акупіраваных тэрыторыях развіваецца арабскі вызваленчы рух, які ўжо з'яўляецца вялікай сілай.

Калі разыходзіцца аб 4 дзяржавы, дык ніводная з іх поўнасцю не падзяляе думкі Ізраіля, здаючы справу, што ізраільская палітыка можа давесці да міжнароднага ваеннага канфлікту ў гэтым раёне свету. Савецкі Саюз і Францыя дамагаюцца цалкавітай ліквідацыі вынікаў агрэсіі, Вялікабрытаніі разыходзіцца перш за ўсё аб магчыма хуткае адкрыццё Суэцкага канала. Прэзідэнт Ніксан з аднаго боку не хоча страціць сваіх уплываў на Блізкім Усходзе, пры дапамозе перш за ўсё Ізраіля, а з другога боку ведае, што праізраільскім элементам у ЗША нічога ён не вінаваты, паколькі ў апошніх выбарах толькі нязначна яны яго падтрымалі.

Ёсць наогул перакананне сярод назіральнікаў, што паколькі дайшло да сустрэчы, дык не можа яна закончыцца нічым. За гэтым стаіць аўтарытэт вялікіх дзяржаў. Першая сустрэча ўжо паказала, што існуе тут падзел як бы на два лагеры: з аднаго боку Савецкі Саюз і Францыя, а з другога боку Вялікабрытанія і ЗША.

Найвялікшы клопат з тым, што ад гэтага ўсяго адцяўся ўрад Ізраіля, які вуснамі сваіх прадстаўнікоў гаворыць, што не верыць, каб сустрэча да чаго-небудзь добрага давяла, а наадварот, зрабіла ўжо вельмі многа кепскага.

### IV З'ЕЗД КПП

Пачаўся ў Кітаі IV з'езд кампартыі. Афіцыяльна не падалі да публічнага ведама, дзе адбываецца гэты з'езд і ніхто не выбіраў на яго дэлегатаў. Вядома, што прамову на ім меў Мао і яго намеснік Лінь Пяо. На з'ездзе няма ніякіх замежных дэлегацый, калі на папярэднім з'ездзе было іх больш 50. На працягу 20 год гэта другі з'езд Кітайскай кампартыі. Трэба дадаць, што адбываецца ён пасля трохгадовай партыйнай чысткі. Новы прадбачваны статут накладае між іншым абавязак на кожнага члена партыі барацьбу з КПСС і іншымі марксісцка-ленінскімі партыямі. Прадбачваецца, што не будзе выбараў у ЦК, а членамі яго назначыцца прэзідыум з'езда, у якім засядае 176 асоб.

АК



## БССР

### КАМІСІІ

Адбылося пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па справах непаўналетніх.

Камісія разгледзела пытанне аб рабоце дзіцячых пакояў міліцыі ў Віцебскай вобласці.

### ПЕРШАЙ

На першай пасля выбараў сесіі абласнога Савета дэпутатаў працоўных у Брэсце выбрана выканаўчы камітэт абласнога Савета, створаны пастаянныя камісіі, камітэт народнага кантролю, зацверджаны начальнікі ўпраўленняў і загадчыкі аддзелаў выканкома.

Дэпутаты разгледзелі пытанне «Аб рабоце Саветаў дэпутатаў працоўных па ахове здароўя насельніцтва».

### УНІВЕРСІТЭТАЎ

На пасяджэнні рэспубліканскага грамадскага савета народных універсітэтаў разглядаліся справы паляпшэння дзейнасці. У прынятай пастанове савет вызначыў канкрэтныя меры па далейшаму развіццю сеткі народных універсітэтаў, павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню заняткаў і паляпшэння кіраўніцтва.

### БЕЛАРУСКАГА

За заслугі ў развіцці беларускага савецкага тэатральнага мастацтва і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння народная артыстка Беларускай ССР Вольга Галіна-Александроўская Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

### ЯЎРЭЙСКІ

Беларусь наведаў Маскоўскі драматычны яўрэйскі тэатральны калектыў пад кіраўніцтвам заслужанага артыста РСФСР Ул. Шварцэра.

Гэты тэатральны калектыў утворана ў 1966 годзе на базе невялікай эстраднай брыгады з шасці чалавек.

### ЗБОРНІК

У выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшаў лексікалагічны зборнік — «З жыцця роднага слова». Вучоныя аўтары змешчаных у зборніку артыкулаў даследуюць розныя бакі сучаснай беларускай лексікалогіі.

### «ПАЛЕССЕ»

Не так даўно танцавальны калектыў Пінскага гарадскога Дома культуры пераўтвораны ў самадзейны ансамбль танца «Палессе». Зараз у ім удзельнічае каля 40 заўзятых аматараў харэаграфічнага мастацтва. Балетмайстар Віктар Ліс.

### РУБРЫКУ

Газета «Звязда» ўвяла рубрыку «Фарбы мовы», якая выклікала шчырае зацікаўленне сярод чытачоў.

«Не застаецца па-за ўвагай чытачоў і мова радыё. Ёсць у лістах папрокі дыктарам, чытальнікам, спевакам, якія часам парушаюць нормы беларускага літаратурнага вымаўлення» — сцвярджае аўтар рубрыкі «Пачатак размовы» кандыдат філалагічных навук А. Міхневіч. Чытач І. Федарак узняў капітальнае пытанне адказнасці настаўнікаў за выхоўванне ў вучняў пачуцця гонару за родную мову... «без чаго немагчыма і выхаванне гонару за сваю краіну».

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### II ПЛЕНУМ

Адбылося пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. На парадку дня знайшлося абмеркаванне метадаў планавання на 1971—1975 гады і заданняў у галіне пабольшання эфектыўнасці інвестыцый, а таксама інфармацыя аб падрыхтоўцы да Міжнароднай нарады камуністычных і рабочых партый і інфармацыя аб пасяджэнні Дарадчага камітэта дзяржаў Варшаўскага дагавору.

З уводнай прамовай у дыскусію аб метадах планавання выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК партыі Балеслаў Яшчук. Сцвердзіў ён, што па тое, каб новы план развіцця вытворчых сіл у максімальнай ступені адпавядаў патрэбам краіны, неабходна прымяніць іншыя чымсьці дагэтуль метады апрацоўкі плана. Праект плана паасобнай гаспадарчай адзінкі павінен прадбачваць спосабы змяншэння ці ліквідавання існуючай яшчэ розніцы ў якасці выпрадукаваных у нас тавараў у параўнанні з якасцю тавараў выпрадукаваных у гаспадарча вядучых краінах. Асаблівую ролю павінны адыграць тут прамысловыя інстытуты, даследчыя лабараторыі, канструкцыйныя і тэхнічныя бюро.

Адной з асноўных праблем далейшага развіцця нашай прамысловасці з'яўляецца кааперацыя і ўзаемныя павязанні паміж рознымі прадпрыемствамі, а таксама паміж прадпрыемствамі а навукова-тэхнічнай базай. Для правільнага вырашэння гэтай праблемы прапануецца стварэнне прамысловых камбінатаў, у склад якіх уваходзіла б шэраг прадпрыемстваў падобнай прадукцыі. Камбінаты атрымаюць правы шырэйшыя ў параўнанні з правамі прадпрыемстваў. Стварэнне камбінатаў павінна давесці да ўзросту прадукцыі, абніжэння яе коштаў, паляпшэння кааперацыі і павышэння навукова-тэхнічнай базы.

Новыя метады планавання інвестыцый прывесці павінны да скарачэння фронту інвестыцый пры адначасовай большай канцэнтрацыі сродкаў у часе, а таксама да рэалізавання інвестыцый таннейшых з карацейшымі цыкламі будовы. Прапанаваныя Палітбюро мерапрыемствы будуць весці да далейшага пашырэння правоў радаў нарадовых.

Для выканання ўсіх тых заданняў трэба будзе перамагчы шмат старых звычак і памылак, патрэбнае будзе разуменне гаспадарчым і партыйным актывам істоты прапанаваных змен. Развітай павінна быць шырокая паясняючая праца. Неабходна трэба пазбегнуць усялякіх націскаў на пабольшанне інвестыцый вышэй устаноўленых у плане. У ваяводскіх праграмах дзеяння не могуць знаходзіцца інвестыцыйныя прапановы, якія не знайшліся ў дзяржаўным плане.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

Згодна з палажэннем аб выбарах (выбарчай ардынацыяй) паклікана Ваяводскую выбарчую камісію і тры акруговыя выбарчыя камісіі для Беластоцкага ваяводства: у Беластоку, Элку і Ломжы. Старшынёю ваяводскай выбарчай камісіі з'яўляецца сакратар Ваяводскай камісіі прафсаюзаў тав. Януш Блях. Паветы: Беластоцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Сакольскі і Сямяціцкі, а таксама горад Беласток падпарадкаваны акруговай выбарчай камісіі ў Беластоку, старшынёю якой з'яўляецца старшыня Акруговага праўлення Прафсаюзаў рабочых камунальнай гаспадаркі і мясцовай прамысловасці тав. Сяргей Салавянюк.

### СВЯТА

Урачыста адзначалі сваё свята рабочыя Беластоцкай фабрыкі і жалезных прылад («Ухвытаў»). З гэтай нагоды адбылося ў фабрыцы ўрачыстае пасяджэнне, у якім прыняў удзел кіраўнік эканамічнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. Міхал Недзведзь. Беластоцкая фабрыка жалезных прылад з'яўляецца перадавым заводам у машынабудоўчай прамысловасці Беласточчыны. Яе вырабы шырока вядомы за межамі нашай краіны. У час урачыстага пасяджэння калектывам Казіміра Лужняка, Гіпаліта Турэцкага і Вітальда Руткоўскага прысвоілі званне «Брыгада сацыялістычнай працы». Многія іншыя рабочыя фабрыкі атрымалі залатыя прафсаюзныя адзнакі і грашовыя прэміі.

### ЧЫН МАЛАДЫХ

Члены Саюза сацыялістычнай моладзі ў Лапах прыступілі да «Эстафеты чыну ЗМС». Іх грамадскія і прадукцыйныя чыны ацэньваюць на амаль 1 мільён злотых. Асаблівай актыўнасцю адзначыліся члены ЗМС з рамонтнага прадпрыемства чыгуначнага транспарту і з прадпрыемства скуранай галантэрэі.

### МЕХАНІЗАЦЫЯ

У Бельскім павятовым машынатрактарным пункце рамонт трактараў і абмалотачных агрэгатаў праводзяць пракатным метадам, дзякуючы якому Бельскі ПОМ рамантуе па два трактары ў дзень.

### МЕСЯЦ САЛІДАРНАСЦІ

Красавік з'яўляецца месяцам міжнароднай салідарнасці з рухам супраціўлення. Асабліва актыўна да гэтага месяца рыхтуецца беластоцкая арганізацыя Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. Заданні арганізацыі ў гэтай галіне былі абмеркаваны на нарадзе сакратароў павятовых аддзелаў ЗБоВіД, якая нядаўна адбылася ў Беластоку. Варта адзначыць, што рады гэтай арганізацыі за апошнія тры месяцы павялічыліся на Беласточчыне на 1000 членаў.

### «КАНТРАСТЫ»

Паявіўся ўжо ў продажу чарговы 4-ты нумар Беластоцкага грамадска-літаратурнага месячніка «Кантрасты». Сярод іншых матэрыялаў на старонках «Кантрастаў» можна знайсці артыкулы журналістаў «Нівы».

(вр)




**Niedziela, 13.IV.**

9.15 Program dnia. 9.20 TV Kurs Rolniczy: „Żyto jako poplon". 9.55 „Przypominamy, radzimy". 10.05 „W obronie życia ludzkiego" — film dokument. ONZ. 10.30 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1934". 11.00 Sprawozdanie sportowe. 12.40 Dziennik. 12.55 „Lenin w filmie" („W starym kinie"). 13.55 „Sezam muzyczny" — „Pan Tadeusz" — suita symfoniczna do poematu A. Mickiewicza. 14.25 „Przemiany". 14.55 Dla dzieci: Z. Nawrocka — „Maski mistrza Fantaski" — widowisko Państw. Teatru Lalek „Arlekin". 15.55 „Architektura znad brzegów Nilu" („Piórkiem i węglem"). 16.20 „Budujmy" — felieton. 16.35 PKF. 16.45 „W kręgu słownikowego nowatorstwa" („Pogadanka o języku"). 17.00 Teatr Komedii Współczesnej: P. C. Jersild — „Uwaga, posiedzenie trwa". 17.50 „Nie ma cudów" — program satyry politycznej. 18.35 „Ludzie i zdarzenia". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Szklany zamek" — film fab. franc. 21.45 Wiadomości sportowe oraz sprawozdanie film. z Mistrzostw Polski w biegach przełajowych. 22.05 „Gramo-von-balet" — filmowy program rozrywkowy czechosł.

**Poniedziałek, 14.IV.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo Stadionu". 17.50 „Szczecińskie konfrontacje". 18.15 „Synowie Nilu" — film dokument. pol. 18.35 „Robertino w Sofii' — film rozr. bułg. 18.50 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: H. Ibsen — „Konsul Bernick" wg dramatu „Podpory społeczeństwa". 21.30 „Pamięć i sprawiedliwość". 22.00 Dziennik.

**Wtorek, 15.IV.**

8.15 „Pod słońcem Rzymu" — film fab. wł. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — F. Zabłocki „Fircyk w zalotach". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi". 11.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Intensywne nawożenie zbóż". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.05 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Studnia" — film NRD. 17.00 Telewizyjny Ekran piosenki". 20.35 „Światowid". 21.05 PKF. 21.15 „Pod słońcem Rzymu" — film fab. wł. 21.40 „Samorządność". 22.05 Dziennik.

**Środa, 16.IV.**

8.20 „Strachy zamku Spessart" — film fab. NRF. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „W imię wolności". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Sprężone powietrze". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole": „Liniowa algebra wektorów" cz. II. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.00 Dla młodych widzów: „Związek Zielonego Zeszytu". 17.25 „Nowiny" — mag. postępu rolniczego. 17.55 TV Kurier Warszawski". 18.10 „Kolarze przed Wyścigiem Pokoju". 18.30 „Kaluszari" — film rum. 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Giełda piosenki". 20.35 „Światowid". 21.05 PKF. 21.15 „Balet" — film muzyczny TVP. 22.00 „Pejzaże". 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 17.IV.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Włodzimierz Lenin". 10.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. I lic. i XI) Język polski — „Poezja bohaterstwa". 13.15 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci i młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Białostocki. 18.05 „Telekram". 18.15 „Reporterzy prezentują" (Katowice i Kraków). 18.45 „Graj cyganie — czyli Cygan w operetce". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Trybuna Telewizyjna. 20.40 „Agent ubezpieczeniowy". — film fab. ang. (kryminalny). 21.35 Reportaż filmowy. 22.00 Dziennik.

**Piątek, 18.IV.**

10.00 „Z zamkniętymi oczami" — film fab. węg. 11.10 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Rzeźba". 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód". 15.30 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino „Ptyś". 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Kino Filmów Amatorskich" 18.25 „Perspektywy techniki". 18.55 „Definicje" — teleturniej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: L. Kruczkowski — „Pierwszy dzień wolności". 21.35 „10 minut recenzji". 21.45 Reportaż filmowy. 22.00 Dziennik. 22.15 Sprawozdanie film. z meczu koszykówki Polska — Jugosławia.

**Sobota, 19.IV.**

9.30 „Szalone wakacje" — film fab. jug. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Za kręgiem polarnym". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ptaki". 12.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Wysokie nawożenie okopowych". 16.10 Program tygodnia". 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego". 17.30 „Spotkania z przyrodą". 17.55 „Rozmowy o książkach". 18.10 „Wizyta w Recoaro" — filmowy program rozrywkowy wł. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Śpiewające podwórka" — program rozrywkowy". 21.00 „Klaps". 21.30 Dziennik. 21.45 Wiadomości sportowe. 21.55 „Horacy" — film fab. franc.




**Piątek, 11 kwietnia**

8.00 Dziennik. 8.15 „Cuda przyrody". 8.30 Teatr TV. A. Samsonia. „Powódź". 9.15 Dla uczniów. 14.20 Program dnia. 14.25 „Panorama nowin". 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 Panorama filmowa. 20.15 Program estradowy. 21.15 „Tylko fakty".

**Sobota, 12 kwietnia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Wynalazca". 9.00 Artystka ludowa ZSRR I. Archipowa. 10.00 „Czyny naszych rodaków". 11.25 Przegląd międzynarodowy. 11.55 „Złoty krążek". Film TV. 12.15 „Sergo Ordżonikidze na Białorusi". 12.35 Program młodzieżowy. 13.35 „Szkatułka muzyczna". 13.45 „Wielki czyn". 14.30 „Wiejskie drogi". 15.00 Film animowany dla dzieci. 15.20 Dziennik. 15.30 TV barwna. 17.00 Otwarcie meczu o mistrzostwo świata w szachach. T. Petrosjan — B. Spaski. 17.30 Koncert z Sali Kolumnowej Domu Zw. Zaw. 18.45 Dziennik. 19.00 „Świat socjalizmu". 19.35 Kronika filmowa. 19.45 „Człowiek z planety „Ziemia". Film fab. 21.20 „Bajka wiosenna". Program muzyczny.

**Niedziela, 13 kwietnia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 O budownictwie eksperymentalnym na wsi. 9.00 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1959". 9.40 „Białe i czarne". 10.10 „Wiosenne preludia". Program literacko-muzyczny. 10.30 Dla żołnierzy. 11.00 „Godzina wiejska". 12.00 Klub filmowy. 13.00 Hokej. „Dynamo" — CSKA. 15.15 K. Fin. „Dziennik kobiety". Spektakl Moskiewskiego dramatycznego teatru im. Puszkina. 17.45 „Nasz sąsiad Finlandia". Turniej TV. 18.35 TV barwna. 20.05 W eterze „Młodość". 21.15 „Tydzień sportowy".

# НАВУКА І ПРАЦА

Лепш працаваць на ўласнай гаспадарцы або ў дзяржаўных гаспадарствах вучаць т.зв. стажавыя асродкі. Іх арганізуе ваяводская камісія 'добраахвотных гуфцаў працы пры маладзёжных арганізацыях ЗМС і ЗМВ. Удзел у іх могуць прымаць дзяўчаты і хлопцы, абсальвенты школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі III ступені.

Стажавыя асродкі знаходзяцца ў ПГР-ах, насенных і гадаўляных цэнтрах. Час стажаў ад 6 да 9 месяцаў. У час навукі на стажы маладыя маюць: бясплатныя кватэры, часткова толькі платную ежу, лекарскую апеку, мажлівасці адпачынку і спорту. Месячны заробак 850 зл. плюс 25 працэнтаў прэміі.

Пасля заканчэння стажу і пасля экзамена абсальвенты атрымліваюць дыплом кваліфікаванага рабочага акрэсленай спецыяльнасці.

Кандыдаты павінны мець пасведчанне аб заканчэнні СПР ці ЗПР III ступені.

У нашым ваяводстве стажавыя асродкі знаходзяцца ў:

1. Станцыя гадоўлі раслін у Пісаніцы, Элцкі павет, для дзяўчат пасля 17-ці год, пачынаецца ад 15.IV. 20 месц.
2. Станцыя насенна-шкулкарская ў Стэльмахове, Беластоцкі павет, для дзяўчат пасля 18-ці год, ад 15.IV. і ў ПГР-ы Бажымы, Элцкі павет, для хлапцоў пасля 17-ці і паўгода, з курсам трактарыстаў, ад 1.VII. 25 месц.

Зацікаўленых больш дакладнай інфармацыяй адсылаем у павятовыя праўленні ЗМВ. Заяўкі прымае Ваяводская камісія ОГП у Беластоку, вул. Прухняка, 3.

(вл)

Пачатак на стар. 1




чальваць дзяржаву будзе прымас, што выбары караля адбывацца будуць на палях Волі пад Варшавай, а выбірае ўся шляхта асабіста, як тады гаварылі па латыні, будзе гэта элекцыя viritim. Новы кароль павінен быў скласці прысягу, што будзе прытрымлівацца ўсіх шляхецкіх правоў і прывілеяў. Сярод абавязкаў, якія ўскладзена на караля, былі такія, як абавязак склікаць кожныя два гады сейм, які рашаў усе справы, між іншым аб'яўляў вайну і заключаў мір, абавязак пабудовы флоту на Балтыцы, палепшанне гандлю. Каралі павінны былі адмовіцца ад спадчыннага трона. Шляхта агаворвалася, што калі б нейкі з пунктаў не быў стрыманы, яна мае права адмовіць каралю паслухмянасць. Гэты пункт даваў праўную аснову да бунтаў, т.зв. ракошаў.

Чарговыя пастановы шляхецкага сейма забаранілі гарадам увозіць загранічныя тавары, а адначасова звольнілі шляхту ад усялякіх вывозных і прывозных пошлін на збожжа і быдла.

Апошняя здабыча шляхты — трыбуналы. Найвышэйшы суд быў у руках караля. Стэфан Баторы адрокся ад яго, ствараючы два трыбуналы для шляхты польскай — у Пятркове і Любліне, два для літоўска-рускай — у Вільні і Гродне. Асобны трыбунал створана для Прусаў. Шляхта набыла сабе не пісанае права распараджэння падданымі незалежна ад зямлі. Дык прадавалі і куплялі паасобных людзей і цэлыя сем'і. Можна было замяніць або выпазычыць падданага. Здзелкі адбываліся за грошы і за розныя прадметы. Кароль Зыгмунт Стары адрокся ад права судзіць сялян і перадаў яго ў рукі іх паноў. Памешчык адначасова абвінавачваў і судзіў.

Прышоў канец і шляхецкай сіле. Знішчылі яе войны, спадак ураджайнасці зямлі, перастарэлая гаспадарка. У канцы XVII стагоддзя бедны шляхціц можа жыць толькі з панскай ласкі ў якасці слугі, эканома, урэшце як убогі сусед цалкам залежны ад магната. Нават сярэдняя шляхта не можа сабе дазволіць на поўную незалежнасць ад багацеяў. Найлепш відаць гэта на сейміках, якія адбываюцца перад сеймам, на якіх выбіраюцца паслы і фармулююцца пасольскія інструкцыі. У часе сейміка магнаты кормяць і пояць выбаршчыкаў, а калі хто супраць іх волі, таму канец. Перакупленыя прыхільнікі магната разнясуць яго на шаблях. І так шляхта страціла большасць сваіх палітычных здабычаў, якімі ганарылася ў XVI стагоддзі. Засталося ў яе толькі пустое перакананне аб роўнасці.

Няўдачы Польшчы на міжнароднай арэне можна вытлумачыць цалкавітым раскладам унутранага ладу. Заканадаўчая ўлада — сейм — не выконвае зусім сваёй функцыі. Як ужо было сказана, у сейме абавязвала аднадушнасць: калі адзін пасол не згадзіўся на пастанову, мог сарваць сейм. Гэтым самым не толькі гэтая пастанова, але і ўсе прынятыя раней пераставалі абавязваць. Да палавіны XVII стагоддзя паслы не карысталі з гэтага права. Прымяніў яго ўпершыню пасол Сіцінскі ў 1652 г. За Аўгуста II зрыванне сейма практыкуецца вельмі часта, а ў працягу трыццаці год панавання яго сына адбыўся толькі адзін правамоцны сейм.

Цёмная і абдураная шляхта выслугоўваецца на сейміках магнатам, якія пільнуюць толькі ўласных інтарэсаў, выдзіраюць сабе пасады і даходы, бяруць лапоўкі ад суседніх дзяржаў. Суседнія ўладары мяшаюцца ва ўнутраныя справы Польшчы. Шляхта не ўяўляла сабе ў якім небяспечным становішчы знайшлася краіна: ела, піла, гуляла і цягнулі з сялян, колькі давалася, даводзячы іх часта да канчатковай галечы.

**Хведар Асініч**

Пачатак на стар. 1




малотачным агрэгатам, матацыклам, трактарам. Вось яны! Іх грокат нясецца з-за лесу. Зараз іх у сялянскіх руках — 6 144, на звыш 50 працэнтаў больш, як тады, калі мы ўстанаўлівалі папярэднюю выбарчую праграму. За год будзе на паўтары тысячы яшчэ больш. Выручаюць сялян. Гаспадары, на шчасце, таксама зразумелі, што гэта іх прыхільнікі і добрыя сябры. Здараецца нават, што сяляне пасварацца за тое, каму першаму трактарам зараць ці выкасіць.

Пара аставіць палі ці дарогі. Палязім у вёску. Ужо здалёк відаць высокі, двухпавярховы, белы будынак. Навокал яго прасторная пляцоўка. Пазнаю, гэта школа. Адна з 45-ці пачатковых школ, якія пабудавана на Беласточчыне на працягу апошніх 4-ох год. Вось званок аб'явіў перапынак. Гаманлівая дзетвара высыпалася на панадворак. Гэта дзеці сялян. Для ўсіх іх школа адкрыта. Васьмікласная пачатковая школа. Больш, яны абавязаны вучыцца. Звыш 68 працэнтаў выпускнікоў пачатковых школ паступае зараз у сярэднія школы — прафесіянальныя і агульнаадукацыйныя. І гэтая дарога адкрыта. Каб толькі здольнасці былі і вытрымкі хапіла. Каму не хочацца ці не можа ісці вучыцца ў горад, мае магчымасць запісацца ў школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Там таксама атрымае добрую, карысную прафесію гаспадара. А пасля мо і агранома. Пасяліцца ў агранамоўку — вось такую, якая стаіць непадалёк ад школы. Ад 1965 года падобных агранамовак пабудавана ў ваяводстве 37. І не толькі агранамовак. 14 ветэрынарных пунктаў аховы здароўя жывёлы, 4 ПОМ-ы і 26 іх філіялаў.

Настаў вечар. На слупах электраліній, якія расцягнуліся ўздоўж вясковай вуліцы, зазіхацелі электрычныя лямпачкі. Вокны хат заліліся святлом. Аж 483 вёскі атрымалі электраэнергію за гэты 4-гадовы перыяд. Ужо толькі 20 працэнтаў вёсак, найчасцей раскінутых на хутарах, не карыстаецца электрычнасцю.

Зазірнем у акно. Гаспадар глядзіць тэлевізійную перадачу, дзеці за ўрокамі, гаспадыня дастае нешта з халадзільніка, у кутку бачу спіральную машыну. Бліскучая мэбля. Ці я не памыліўся? Не, гэта цяперашняя вёска Беласточчыны. Можна было б папрасіць гаспадыню, каб адчыніла шафу, каб паганарылася багатымі ўборамі. Лепш аднак не перашкаджаць у занятках.

Усё гэта выпрацавалі мы ўласнымі рукамі, уласным розумам. Усё гэта аднак каштавала многа грошай. У 1966—1968 гадах — аж 2 мільярды 135 мільёнаў злотых. Толькі грошай адвяла дзяржава на патрэбы сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Меліярацыя каштавала 743 мільёны злотых, электрыфікацыя — 251 мільён злотых.

Ахапілі мы зрокам ледзь вузенькі кусочак сельскагаспадарчай Беласточчыны. Астаўся яшчэ шырокі прастор прамысловага кругагляду. Паглядзім на яго можа наступным разам. Але цяпер варта сказаць сабе поўным голасам, што нашыя спадзяванні ў асноўным споўніліся, што эканамісты нас не падвялі. Ды няма ў нас месца на пустыя абяцанні рознага роду фантазёраў. Гэтае трэба ведаць, калі прыдзецца нам выбіраць нашых прадстаўнікоў ва ўлады ўсіх узроўняў.

**В. Рудчык**

Каб асталося для гісторыі

## ЦІКАВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Многа трэба працы ўлажыць, каб, напрыклад. знайсці даныя адносна таго, што рабілася ў даны перыяд часу. Гісторыкі ведаюць, як каштоўнымі з'яўляюцца хронікі ў гэтай галіне.

За 25 год народнай улады адбыліся шматлікія перамены, цікавыя здарэнні. Не заўсёды быў час, каб іх спісваць. Амаль не маюць у сваім распараджэнні такіх даных найменшыя адміністрацыйныя адзінкі, якімі з'яўляюцца ГРН.

Каб паказаць паасобныя ГРН-ы ў Гайнаўскім павеце, аб'яўлена конкурс на хроніку 25-годдзя для паасобных ГРН павета. На конкурс павінны быць дастаўлены хроніка і альбом, якіх мэтай павінна быць «Развіццё грамады ў перыяд 25-годдзя ПНР».

Школы, гарцэрскія дружыны і маладзёжныя арганізацыі з'яўляюцца галоўнымі арганізатарамі і выканаўцамі конкурсных заданняў. Не падкрэсліваючы і так ужо вядомай аграмаднай выхаваўчай функцыі конкурса, інфармуем, што камісія — на чале якой стаіць кіраўнік ПОПП Вітальд Татарчык — прызнае групавыя ўзнагароды, а вартасць першай не меншая 10.000 зл.

(ак)

Наш Каляндар

## ІЛЬЯ ГУРСКІ



**70 год назад, 14 красавіка 1899 года ў вёсцы Замосце на Міншчыне нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік Ілья Гурскі. Да рэвалюцыі працаваў рабочым у Пецярбургу. Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі. Потым служыў у Чырвонай Арміі. Скончыў Беларускі ўніверсітэт і аспірантуру пры Акадэміі навук БССР. Асноўныя выданні: «Драматычныя творы» (1936); зборнікі апавяданняў «Над Нёманам» (1945), «У вялікай дарозе» (1958); аповесць «Лясныя салдаты» (1945); раман «У агні» (1952); «Выбраныя творы» (1951), раман «Вецер веку» (1966). Сёння змяшчаем урывак апавядання І. Гурскага пра Леніна.**

## ПЕРАД БУРАЙ

За шалашом, схаваўшыся ад пранізлівага ветру, сядзіць на пні чалавек. Ён, нахіліўшыся над паперамі, нешта піша. Па ўсім відаць, што праца ідзе добра, бо чалавек піша радок за радком. Ён да таго захапіўся работай, што ў задуменні падняў руку і хацеў пагладзіць галаву, зусім забыўшыся, што ён у шапцы. Ён сёння ўжо напісаў некалькі старонак дробным, уборыстым касым почыркам. Разагнуўшыся і выпраставўшы плечы, чалавек прыжмурыў вочы, каля іх сабраліся маршчынка; хацеў узяцца за бараду, але ўспомніў, што яе няма: сам сабе ўхмыльнуўся. Ён, відаць, яшчэ не прызвычаіўся да таго, што барада пастолена. Потым чалавек зняў шапку і павесіў на сучок. Вецер раздзімаў яго чорныя як смоль валасы.

Хаваючыся ад агентаў Часовага ўрада, Уладзімір Ільіч апынуўся ў шалашы паблізу станцыі Разліў. Сышчыкі збіліся з ног, каб знайсці месца, дзе хаваўся Ленін, але гэта не так лёгка зрабіць. Ленін быў вопытным канспіратарам.

— Канстанцін Пятровіч! — занепакоілася жанчына, якая кінула грэбці сена і варыла яму абед: яна ўгледзела незнаёмага рыбалова, які хадзіў каля рэчкі. — А чаму вы без шапкі?..

Уладзімір Ільіч схамянуўся і, надзеючы шапку, збіў парык, з-пад якога відаць быў вялікі лоб. Потым Уладзімір Ільіч устаў, заклаў пальцы ў кішэнькі камізэлькі і звычайнай сваёй быстрай паходкай, відаць задаволены работай, прайшоўся, а затым, паглядзеўшы ў бок рыбалова, насцеражыўся. Не такое ўжо тут рыбнае месца, што яны сюды так часта заходзяць.

Закружыў вецер, падхапіў лісты рукапісу; хлапчук падбег, сабраў лісты (асобныя месцы былі падкрэслены адной і дзвюма рыскамі) і прачытаў: Ф. Ф. Іваноўскі. «Дзяржава і рэвалюцыя». Хлапчук радаваўся — ён ведае сакрэт Канстанціна Пятровіча, ведае, пад якім прозвішчам выйдзе яго кніга. А хто такі Канстанцін Пятровіч? Бацькі хлапчуку гэтага не сказалі, аднак дзіцячая душа, відаць, нешта адчувала, і ён вельмі цікавіўся госцем. Яны за апошні час так падружылі, што хлапчук гатоў быў дзень і ноч праводзіць з Канстанцінам Пятровічам, які расказваў яму шмат цікавага...

Падышоўшы, Уладзімір Ільіч заўважыў, што з хлапчуком адбываецца нешта такое, міма чаго дарасламу ніяк нельга прайсці, — можна пакрыўдзіць чулую дзіцячую душу. Ленін дапытліва паглядзеў на хлапчука, жадаючы дазнацца, якая ў яго радасць.

— Канстанцін Пятровіч! — не вытрымаў хлапчук, — А я таксама пішу... Паглядзіце...

— О-о-о, вершы, — прабег вачыма Уладзімір Ільіч. — Ну, значыць прыйдзецца даць стрэліць... Ты ўжо амаль паэт...

Хлапчук ад радасці аж падскочыў: Канстанцін Пятровіч разгадаў яго патаемныя думкі.

— А толькі ты перш за ўсё вучыся, — раіў Уладзімір Ільіч. — Паэту трэба многа ведаць, каб было пра што людзям гаварыць.

— Дзе ён толькі сёння не быў са сваім вершам, нават на станцыю хадзіў, мусіць, каб пахваліцца перад настаўнікам, перад сябрамі... — цешылася з сына маці.

— Ты ў якім класе вучышся?

— Чатыры скончыў, — паспяшыла адказаць маці.

— У яго ўзросце многія пішуць вершы, — зазначыў Уладзімір Ільіч і павярнуўся да хлапчука. — А толькі нешта ў цябе з рытмам не ладзіцца, ды і рыфмы трапляюць слабаватыя...

— А я яго нанава перапішу...

— Хіба толькі!.. — пагладзіў па галаве падлетка Уладзімір Ільіч. — Цяжка быць пісьменнікам... У Льва Талстога ёсць да пятнаццаці варыянтаў адной і той жа мясціны... Цяжкая, але высакародная гэта праца...

— Канстанцін Пятровіч! Можа абедаць будзеце? — прапанавала жанчына.

— Нешта не хочацца, — адказаў Уладзімір Ільіч і, паглядзеўшы на гадзіннік, дадаў: — Хоць ужо і час. А як у вас з прадуктамі?

— Прадукты ёсць, Канстанцін Пятровіч, — жанчына паглядзела на хлапчука, які пабег да рэчкі, а потым паведаміла: — Таварышы з Піцера паклапаціліся.

— Таварышы з Піцера шлюць, а там ім самім цяжка, — заклапочана прагаварыў Ленін. — Я яшчэ крыху папрацую.

— Не, Канстанцін Пятровіч, — стаяла на сваім жанчына. — Вы ад самай раніцы працуеце. Адпачылі б трохі, прагуляліся, ці схадзілі б на паляванне. Колькі тут за вайну развялося ўсялякай дзічыны! Мне і так ад мужа дастаецца на арэхі. Суровы наказ — кар-

# КАБ ЗБОЖЖА РАСЛО Ў АГЛОБЛЮ

Не так даўно сусед гаварыў суседу: «Ведаеш, сёння я пасеяў 7 пудоў жыта, а на бульбяніку думаю пасеяць пшаніцу, ячмень і авёс буду вясною сеяць за рэчкай».

Цяпер гэтага не дастаткова. Трэба ведаць не толькі, што пасею жыта, авёс, пшаніцу, ці ячмень, але — **якое жыта, які авёс, якую пшаніцу, які ячмень?**

Вось прыклад: гаспадары ў нас збіраюць у сярэднім зараз ад 15 да 18 цэнтнераў жыта з аднаго гектара. І гэта лічыцца даволі высокі ўраджай. А вось жыта **«хробрае».** На вопытных дзялянках у даследчай станцыі дало яно плён аж 44 цэнтнеры з аднаго гектара. Гэтае ж самае жыта на вопытных дзялянках у гаспадароў дало плён у 32 цэнтнеры з аднаго гектара. Вось такое жыта сапраўды расце ў аглоблю, а дакладней кажучы — расце яго калоссе, бо салома нікому не патрэбна, патрэбна нам збожжа, залатое, пародзістае, як гарох.

Перш за ўсё таму менавіта сельскагаспадарчая служба Беластоцкага ваяводства ў мінулым годзе правяла даволі істотныя змены, калі разыходзіцца пра падборку пасяўнога матэрыялу. Зараз сяляне Беласточчыны маюць абавязак сеяць жыта: «данькоўскае залатое», «данькоўскае селекцыйнае» і менавіта «хробрае»; пшаніцу азімую: «данькоўскую белую», «данькоўскую паўночную», «эка нова», «міраноўская 808» (гэта савецкі гатунак) і «эрос»; пшаніцу ярую: «наградавіцкую», «апольскую» і «остка папулярная»; авёс: «пшэбуй II», «удыч залаты» і нямецкі «флямінгсвайс II»; ячменю толькі адзін гатунак «скшэшовіцкі».

Гэта ўсё высокаўраджайныя гатункі збожжа. Яны добра вытрымоўваюць павышаныя дозы штучных угнаенняў — нават да 200 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва на адзін гектар зямлі.

На жаль, беластоцкая Цэнтраля насенная пакуль што мала мае гэтых гатункаў збожжа. Проста вопытныя і насеннагадоўчыя дзяржаўныя гаспадаркі не паспелі яшчэ падрыхтаваць дастатковай яго колькасці. Аднак за 2—3 гады будзем есць хлеб, пірагі, кашу і кісель толькі з гэтых гатункаў збожжа — пакуль, вядома, вучоныя хлеборобы не падрыхтуюць нам яшчэ лепшых гатункаў.

У сувязі з гэтым выводзяцца з Беластоцкага ваяводства наступныя гатункі збожжа: жыта — «смолінскае» і «влошаноўскае», пшаніца азімая: «данькоўская селекцыйная», «данькоўская — 40», «высокалітоўка штыўнасаломая» і «малгажатка ўдыцкая»; ячмень: «бравароны» і «Ванда».

Раянізацыя пасяўных культур адносіцца не толькі да ўсяго ваяводства. Яна абавязвае паветы, а ў паветах пасобныя грамады. Найлепш тады пайсці да раённага аграномa і запытаць яго, які гатунак збожжа назначана сеяць у вашай вёсцы. Усё залежыць ад якасці глебы і інтэнсіўнасці ўгнаення. Вынікі даследванняў калектываў сельскагаспадарчых спецыялістаў паказваюць, што ў адных вёсках прымяняецца зараз ужо звыш 100 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва, штучных угнаенняў на адзін гектар, а ў іншых, часта суседніх вёсках усяго па 15—20 кілаграмаў. Пры такой агратэхніцы можна, як кажуць, угробіць нават залаты гатунак пасяўнога збожжа. І тады, замест у аглоблю, вырасце яно ў шыла. (вр)

У ТЭАТРЫ АЛ. ВЯНГЕРКІ



**ХУТКА ПРЫДУЦЬ БРАТЫ**

**Так называецца новая п'еса пастаўленая Беластоцкім тэатрам. Аўтар Януш Красінскі, рэжысерыя Збігнеў Мак, сцэнаграфія — Збігнеў Венцкоўскі.**

**На здымку Барбара Камароўская (Ада) і Мечыслаў Банасік — (калекцыянер).** (вл)

# НАША ПОШТА

«Лёня», з Беластоцкага павета піша: **«Ад свайго імя і маіх двух калег хачу запытаць як трэба старацца, каб атрымаць дублікат загубленага арыгінала школьнага пасведчання?»**

**Адказ:** Як паступаць, каб атрымаць дублікат школьных пасведчанняў рэгулююць правілы Міністэрства асветы № 28 ад 23 чэрвеня 1960 года (Dziennik Urzędowy Ministerstwa Oświaty Nr 9 poz 158). Калі школьнае пасведчанне знішчылася або загубілася, трэба звярнуцца на пісьме да школы, якая выдала арыгінал, каб яна выдала дублікат пасведчання, падаючы адначасова, дзе і як патрачана пасведчанне. Да прашэння трэба далучыць довады, якія б пацвярджалі або ўпраўдападабнялі патрату пасведчання. Калі школа мае патрэбную дакументацыю зацікаўленай асобы, павінна выдаць дублікат загінуўшага ці знішчанага пасведчання. Калі школа дакументацыю перадала іншай установе, тады дублікат можа выдаць тая ж установа. Калі дакументацыі ўвогуле няма, дублікат не можа быць выданы, а пасведчанне можна ўзнавіць праз суд.

Школа ці ўстанова, да якой звярнуўся зацікаўлены, вырашае ў кожным канкрэтным выпадку аб патрэбе і спосабе аб'явы. Аб'явы аб патраце дакумента прымяняюцца перш за ўсё ў такіх выпадках, як пакража, або калі быў ён загублены ў публічным месцы г.зн. у такіх выпадках, калі ёсць магчымасць выкарыстоўвання гэтага дакумента непаклікáнымі да гэтага асобамі. Але напр. пажар выключае такую магчымасць. і тады аб'ява аб патраце пасведчання не з'яўляецца неабходнасцю.

Аб'яву аб патраце дакумента рэдагуе і накіроўвае да «Дзенніка Ужэндовага» Міністэрства асветы і вышэйшага школьніцтва або прэсы **не** асоба зацікаўленая, **але школа** (установа, якая можа выдаць дублікат пасведчання, напр. Аддзел асветы і культуры Прэзідыум ПРН).

**Дарадчык**

міць вас у пару. Ды абед, пэўна, астыў, хоць я яго ўкруціла ў ручнік і паставіла ў стог.

У голасе жанчыны чуліся ноткі просьбы. Ільіч паглядзеў на яе добрыя, поўныя цеплыні карыя вочы, на загарэлы твар і згадзіўся паабедаць.

— Значыць, абедаць абавязкова? — мыючы рукі, весела запытаўся Ільіч.

— Так, — падаючы ручнік спрацаванымі рукамі, сцвердзіла жанчына і паспяшыла да стога, дзе быў схаваны абед. Яна сама сабе падумала: «Які ён просты і добры, а я баялася — як з ім гаварыць».

Уладзімір Ільіч, сеўшы на траву, пачаў з апетытам абедаць. Перад ім на пасланай белай сурвэтцы стаяла талерка з юшкаю, ад якой несла прысмакамі, ляжаў хатняй выпечкі накроены хлеб. Кабета збоку наглядала за Ільічом, шчаслівая, што абед яму спадабаўся.

Хлапчук падбег да агню і стаў поркацца ў прыску, час ад часу пазіраючы на Канстанціна Пятровіча, каб звярнуць на сябе ўвагу.

— Дык як, Петрусёк, — загаварыў Ільіч, — пасля абеду пойдзем на паляванне?

— Пойдзем, — ажывіўся хлапчук і адразу ж выпаліў: — А толькі я не Петрусёк, а Віця Разліўцаў!

— Чаму? — здзівіўся Ільіч.

— А чаму вы Фы Фы Іваноўскі? — адказаў пытаннем на пытанне хлапчук, а пасля дадаў: — Віця між іншым, а Разліўцаў таму, што жывём недалёка ад станцыі Разліў.

Ільіч пасуравеў і нахмурыў бровы. Прамільгнула думка: «Патрэбна вялікая асцярожнасць: часам людзі, зусім не хочучы зрабіць нічога дрэннага, могуць прагаварыцца і нашкодзіць справе».

— А каб пра мяне хто распытваў, — вырашыў праверыць Ільіч хлапчука, — што б ты сказаў?

Уладзімір Ільіч, прыжмурыўшы вока, уважліва паглядзеў на хлапчука, чакаў адказу:

— Гэта наш госць, Канстанцін Пятровіч Іваноў, з Сестрарэцка, — вось што я адказаў бы... Канстанцін Пятровіч! Бульбу печаную будзеце есці? Лепш любога кампоту!

— З прыемнасцю, — заспакоіўся Ільіч. Ён пераканаўся, што хлапчук не ведае, хто такі Канстанцін Пятровіч Іваноў. Уладзімір Ільіч ахвотна ўзяў з рук хлапчука падрумяненую сопкую скараспелку і стаў абскрабаць яе ножыкам.

— Канстанцін Пятровіч! — не сунімаўся хлапчук. — Вы былі ў Піцеры, а ці бачылі вы Леніна?

— Бачыў, — насцярожана адказаў Ільіч і запытаўся: — А што?

— Ды раніцаю на станцыі абкружылі поезд, у пасажыраў правяралі дакументы: кажуць, шукаюць Леніна. Сабралася многа людзей. А нейкая бабулька хрысціцца і просіць бога, хоць бы не знайшлі Леніна. «Напакутаваўся, — кажа бабулька, — ён за нас пры цару, а цяпер гэты праклятьі Керанскі хоча Леніна зноў у турму пасадзіць і зрабіць з ім расправу». А потым хтосьці крыкнуў: «Не дамо арыштаваць Леніна!» — «Не дамо!» — адказаў натоўп. А каб вы бачылі, як людзі былі рады, калі даведаліся, што Леніна не знайшлі.

— Рады? — перапытаў Ільіч.

— Ага, — кіўнуў галавою хлапчук. — А Лёнькаў тата стрэлачнік, сказаў: «Нашага Леніна не так проста ўзяць. Ён яшчэ пакажа гэтаму Керанскаму, дзе ракі зімуюць, будзь здароў!»

— Гэтак і сказаў?

— Няўжо ж, — у хлапчука загарэліся вочы. — А які Ленін? Мусіць вялікі-вялікі? Бальшавік?

— Бальшавік.

— Канстанцін Пятровіч! — падышоўшы, запыталася жанчына. — Можа вы адпачняце? Лезе ён са сваімі размовамі.

— А мы з ім гаварылі пра тое, ці ведае ён, як зваць госця, калі б хто пытаўся, — паведаміў Ільіч. — А потым перайшлі на палітыку...

— А ён, каб і ведаў, дык нічога не сказаў бы, — з гордасцю за сына прагаварыла маці. — Ён умее трымаць язык за зубамі. Да гэтага яго бацька з маленства прывучыў.

— Мы з ім пойдзем на паляванне. — Ільіч паглядзеў на пачырванелыя ногі хлапчука і спагадліва сказаў: — А толькі ты босы, холадна будзе...

— Нічога, босаму лягчэй, — адказаў хлапчук.

— Канстанцін Пятровіч, можа чаю вып'еце? — запытала жанчына.

— Пасля, — Ільіч паглядзеў у бок шалаша і, звяртаючыся да хлапчука, крыкнуў, крыху картавячы: — Ну як, Разліўцаў, гатоў?

— Іду, Канстанцін Пятровіч!

— Возьмеш стрэльбу.

— Добра. — Хлапчук быў рады, што яму даверылі дубальтоўку. Ён ускінуў яе на плячо і важна прайшоў каля маці. Кабета правяла іх добрым позіркам і пажадала ім шчаслівай дарогі.

## АБАВЯЗАЛІСЯ — ВЫКАНАЛІ




Стан вясковых дарог з'яўляецца дасканалай мерай прагрэсу. Вядома, што прадстаўлялі сабой нашыя дарогі гадоў дваццаць таму назад: глыбокія каляіны ад «жалезнякоў», летам ямы, у якіх вазы вываротваліся, вясною і восенню балота, у якім коні тапіліся. Даўней, аднак, пакуль не было трактараў ды механізацыі, на дарогах гэтых неяк там сяляне сабе раілі. Калі ж у вёсках паявіліся машыны і цяжкія сельскагаспадарчыя прылады, сітуацыя на вясковых дарогах сталася нязноснай. Пачаліся масавыя акцыі пры пабудове вясковых дарог.

Акцыі прац грамадскім чынам, абавязацельствы сялян у гэтай справе набіраюць заўсёды новага размаху ў сувязі з вялікімі палітычнымі падзеямі нашай краіны. Так было напярэдадні V з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Сяляне на сходах прымалі прадукцыйныя абавязацельствы, а сярод абавязацельстваў першае месца займалі працы пры ўпарадкаванні дарог.

У грамадзе Пасынкі ў працах грамадскім чынам асаблівай актыўнасцю выказаліся вёскі: Сакі, Зубава, Пілікі, Мякішы. Жыхары гэтых вёсак прыступілі да прац на найбольш занядбаных, ды найбольш у вясковым жыцці важных адрэзках дарог. Жыхары вёскі Сакі прыняліся ладзіць дарогу, якая вядзе з Сакоў у Зубава, а адтуль на шашу Бельск — Нарва. Вывезлі яны пры аказіі 180 кубічных метраў зямлі. Не менш актыўна ў працах грамадскім чынам выказалася вёска Зубава, у гэтай жа грамадзе. На асаблівую ўвагу заслугоўвае тут удзел загадчыка мясцовай школы Мікалая Врублеўскага ў прапагаванні і арганізаванні вясковых абавязацельстваў і іх выконванні.

Жыхары суседняй грамады — Кленікі на выкананне сваіх прадз'ездаўскіх абавязацельстваў прысвяцілі адну нядзелю, жыхары вёскі Кленікі прыняліся за рамонт дарогі Кленікі—Градочна, якою раней цяжка было пераехаць, жыхары вёскі Малыя Тыневічы пастанавілі выправіць дарогу Тыневічы — Камень. Раней тут сапраўды было, як кажуць, ні прайсці, ні праехаць. Дарога гэтая мокрая і глiністая, у апошнія гады дашчэнту раз'езджаная трактарамі сталася даслоўна «бездарожжам». Балота сяляне завазілі пяском і цяпер могуць свабодна ездзіць вазы і трактары, хадзіць людзі.

На асаблівае прызнанне ад улад грамадскай рады нарадовай у Кленіках заслужылі жыхары невялікай вёскі Радзькі. У вёсцы гэтай усяго 14 гаспадароў. Амаль усе яны прынялі ўдзел у арганізаванай праз ГРН працы капаючы дарожныя равы на адрэзку паміж гэтаю вёскай, а Тыневічамі. Дарожныя працы грамадскім чынам папулярнымі сталіся апошнім часам нават у такіх адсталых да нядаўна вёсках, як Гукавічы і Ляшчыны. У вёсцы Тыневічы Вялікія ў дарожных працах прыняла ўдзел нават школьная моладзь з загадчыкам школы на чале.

Кленіцкая «нядзеля чынаў» мае ўжо сваіх герояў. Належыць да іх перш за ўсё Васіль Карчэўскі — гаспадар, які давозіць малако ў малачарню. Развозячы банькі агітаваў ён гаспадароў пасобных вёсак да актыўнага ўдзелу ў працах, а наступна сам найбольш актыўна прыняўся за работу. Дасканалую падтрымку трактарам і іншымі неабходнымі прыладамі атрымліваюць сяляне ў час прац грамадскім чынам ад Грыгарука Васіля — дыспазітара міжгурткоўскай машыновай базы ў Кленіках.

Папулярнасць прац грамадскім чынам у вясковым асяроддзі не змяншаецца, а ўзрастае. Вартасць іх у грамадзе Кленікі сягае сумы некалькіх соцен тысяч злотых у год. Дзякуючы ім, дзякуючы ахвярнай працы тысяч сялян з году ў год змяняецца аблічча нашай вёскі. Змяняецца на лепшае.

**Ул. Паўлючук**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДРУЖНАЯ ВЁСКА

Вёска Сакі, што на Бельшчыне, вядома на ўсю ваколіцу. Кожны скажа, што няма так дружных людзей, як у Саках. Некалькі гадоў назад у вёсцы скуплялі малако ў прыватных хатах, дзе ўмовы не адпавядалі патрабаванням гігіены. Калі сяляне загаспадаравалі зялёныя ўгоддзі, колькасць малака павялічылася і павялічыліся клопаты з памяшканнем. Жыхары Сакоў дружна ўзяліся за работу, каб палепшыць умовы скупу малака. Рашылі пабудаваць будынак злеўні чынам. Навазілі жвіру, нарабілі пустакаў і г.д. У кароткім часе пры малой дапамозе акруговай малачарні ў Бельску Падляшскім злеўня малака была аддадзена ў карыстанне. На адным са сходаў, у канцы 1967 года, сяляне Сакоў адначасова рашылі пабудаваць святліцу. На тым жа сходзе выбралі камітэт, які меў наглядаць за пабудовай. Ранняй вясной сяляне зрабілі фундамент, закупілі шмат пустакаў і ў кожную вольную ад працы хвіліну яны дружна працавалі пры будове. Кожны, хто ўмеў валодаць якім-небудзь рамяствам, выконваў яго. Так што не трэба было шукаць спецыялістаў, якім трэба было плаціць вялікія грошы. Найбольш клопатаў мелі сяляне ў атрыманні патрэбных матэрыялаў, як дошак на падлогу і столь. Многа трэба было нахадзіцца. Дружныя аднавяскоўцы ўсе клопаты пры будове пераадолелі. Да канца 1968 года будынак святліцы быў гатовы. І так, мары жыхароў Сакоў здзейсніліся. Цяпер маюць яны вялікую залу і пастаянную сцэну ў размерах 11х6 м. Найбольш працавалі пры будове: Харытон Сідарук, Іван Сідарук, Васіль Яканюк і Сцяпан Яканюк.

У лютым адбылася ўрачыстасць у святліцы. Аматарскі калектыў самадзейнікаў з Пасынак супольна з моладдзю Сакоў даў першы канцэрт у новай святліцы. У праграму ўвайшлі: песні, гумар, скетчы і п'есы «Гарадскія госці» і «Мікітаў лапаць». Гледачоў была поўная зала, якія цёпла прымалі кожны нумар праграмы і ацэньвалі бурнымі апладысментамі. Пасля выступленняў была патанцоўка. Прыемна і культурна ў песнях і жартах прайшоў час да глыбокай ночы.

**В. Весялоўскі**
Пасынкі

## НАША РАДЗІМА...

Нядаўна адбылася метадычная канферэнцыя настаўнікаў Беластоцкага павета. Удзельнікі канферэнцыі былі падзелены на секцыі звязаныя з навучаннем паасобных прадметаў. Вельмі цікавы ўрок вяла сяброўка з Супраслі грам. Вашкель. Тэмай урока было «Наша радзіма — Народная Польшча». Былі моцна падкрэсленыя моманты патрыятычнага выхавання, а як дапаможнікі былі выкарыстаны карты, ілюстрацыі з часопісаў. Настаўніца пакіравала ўрокам так, што вучні пачалі жывую дыскусію аб роднай мясціне. Пасля абмеркавання гэтага ўрока настаўнікі дзяліліся сваімі дасягненнямі.

**Мікола Краўчук**
**Патока**

---

тупаючы з боку Сямяціч. Бой ішоў звыш пяці гадзін. Немцы былі вымушаны адступіць, пакідаючы сорак восем забітых. Двух немцаў партызаны ўзялі ў палон.

18 сакавіка пасля абеду іншы атрад вёў двухгадзінны бой з жандармерыяй і атрадам СС з Беластока каля вёскі Грабарка. Бой закончыўся на змярканні. У гэтым баі загінула каля 50 немцаў.

У гэты самы дзень адно з падраздзяленняў дывізіі вяло бой у раёне Мілейчыц. Загінула тут каля 20 фашыстаў. Другое падраздзяленне ў гэтым самым часе вяло бой пры пераходзе шашы Сямяцічы—Бельск. У часе бою партызаны знішчылі адзін нямецкі самаход і забілі 12 немцаў.

Праз Мілейчыцы пад вокнамі пастарунка жандармерыі прайшоў партызанскі конны атрад. Жандараў не было. Яны ў баі пад мястэчкам кінулі са страху зброю, пакінулі там і эсэсаўцаў, вярнуліся ў Мілейчыцы, забралі свае жонкі і на чале з амсткамісарам схаваліся на праваслаўным могільніку ў вёсцы Сасіны, дзе сядзелі ўсю ноч з 18 на 19 сакавіка і другі дзень да дванаццатай гадзіны. У гэтым часе партызанская дывізія пераправілася ў Белавежскую пушчу і пайшлі далей на ўсход, на сустрэчу з фронтам.

**Ян Анацік**

## АБ БІБЛІЯТЭЦЫ Ў ПЛЁСКАХ

Бібліятэка ў Плёсках існуе ад 1956 года. Ад 1964 года бібліятэкарам з'яўляецца Зіна Гаўрылюк. Гэта добры бібліятэкар. Сведчыць аб гэтым тое, што атрымала яна два дыпломы за ўдзел у спаборніцтвах грамадскіх бібліятэк. Першы — у XX-годдзе ПНР, другі — у 50-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка. Апрача таго, некалькі грашовых узнагарод. Апошнім часам з'яўляецца апекуном двух бібліятэчных пунктаў у Кнаразах і Дзяніcках. Чытачы Зіну Гаўрылюк любяць і цэняць. З кожным годам яна павялічвае колькасць кніг. Калі пераняла бібліятэку ў 1964 г. было 3000 кніг, сёння 4130 кніг. У апошняе паўтарагоддзе ў бібліятэку прыбыло 46 экземпляраў кніг на гаспадарчыя, палітычныя, культурныя тэмы. Цяпер у бібліятэцы 260 чытачоў. У бібліятэцы можна пачытаць часопісы і газеты. Вельмі многа часопісаў на рускай і беларускай мовах. Калі разыходзіцца аб беларускія кніжкі, іх у бібліятэцы да 400 экземпляраў. Важна гэтае для вучняў, якія вывучаюць беларускую мову. Кожны ведае, што бібліятэка ў Плёсках у малым памяшканні, аднак знайшлося месца на куточак з літаратурнымі навінкамі. Тут знаходзяцца кніжкі з апошніх выданняў.

Штогод Зіна Гаўрылюк праводзіць конкурсы. У гэтым годзе ёсць іх аж тры: «Злоты Клос» (у мінулым годзе прыняло ў ім удзел 60 асоб), «Бліжэй сучаснай кніжкі», «Польскі рабочы рух у барацьбе за новае заўтра». Усе шануюць і паважаюць Зіну Гаўрылюк за яе ветлівасць, адданасць для працы.

**В-ка**
Плёскі




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю 20 год. Жыву на вёсцы. Займаюся хатняй работай і трохі зарабляю шыццём. Янка, так называецца мой хлапец, хадзіў перад арміяй да Л. Тады я заўсёды звяртала на яго ўвагу, але не думала, што ён калісьці можа быць маім хлопцам. Пайшоў ён у армію. Не ведаю, чаму ён не пісаў лістаў да Л., а пачаў пісаць да мяне. Калі прыязджаў у водпуск, прабываў толькі са мною і гаварыў, што мяне кахае. Вярнуўшыся дамоў, ён яшчэ да мяне хадзіў, але маё сэрца адчувала, што між намі не было так, як раней. На забаве ён мяне не пазнаваў, не прасіў ніколі танцаваць. Часам мы толькі вярталіся разам з забавы. Тады мы зноў сядалі на тую самую лаўку, дзе раней, і з яго вуснаў чуліся тыя ж самыя словы. Я заўважыла, што яны не такія цёплыя, як калісьці. А цяпер ён мяне пазабыў, можа і назаўсёды. Я яго вельмі кахаю і не магу аб ім забыць. Калі ўбачыла з іншай дзяўчынай, мне проста разрываецца сэрца. Я хачу, каб ён да мяне вярнуўся, але не ведаю, як гэта зрабіць? Парай, Сэрцайка, як паступіць у гэтай справе. За параду буду ўдзячна.

**Галіна з Бельскага павета**

**Дарагая Галіна!**

На гэта і я рады не маю. Вельмі ж часта бывае, што хлопец гаворыць вельмі многа цёплых слоў, а потым... што ж, потым забывае. Тым больш, калі гэта бывае перад арміяй. Мо ён тады і кахаў цябе, прынамсі яму так магло здавацца. А ці ж можна мець жаль да кагосьці, што ўжо не кахае? Гэта сумная рэч, аднак многім тое ж здараецца, бо сэрца прымусіць не здолееш. Мусіш цярпець, а пасля нейкага часу пяройдзе. Найлепшае лякарства на гэта — зацікаўся кім-небудзь. Тады многа хутчэй забудзеш аб Янку, або можа, калі гэта ўбачыць Янэк — дык вернецца да цябе. І так бывае. Аднак не паказвай перад Янкам свайго цярпення. Гэта вельмі важна. Паводзь сябе так, як бы нічога не сталася.

Жадаю ўсяго найлепшага
Сэрцайка

## СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД

23 сакавіка адбыўся справаздачны сход трасцянскай партыйнай арганізацыі. Сход адкрыў сакратар грамадскага камітэта ПАРП Іван Тапалянскі і прывітаў запрошаных гасцей з павета: Людвіка Бартосяка, Чэслава Ясюкевіча, Антона Конрата і Лявона Ляскоўскага. Пасля Іван Тапалянскі прачытаў справаздачны даклад. У час дыскусіі многа гаварылася аб павышэнні ўраджайнасці з гектара, аб дзейнасці ГС-у ў Нарве, аб паводзінах моладзі і яе выхаванні.

План дзейнасці трасцянскай партыйнай арганізацыі прачытаў член грамадскага камітэта ПАРП Міхась Пучко — кіраўнік школы ў Сацах. Аб заданнях усім членам партыі ў час выбараў у Сейм і рады нарадовыя прачытаў старшыня ГРН-у ў Трасцянцы Аляксандр Кур'яновіч.

**М. Л.**
Гайнаўскі павет

## ШКОЛЬНІКІ З АРЭШКАВА



У пачатковай школе ў Арэшкаве (Гайнаўскі павет) добра працуе вучнёўскі гурток Лігі аховы прыроды, які налічвае 80 членаў. На здымку кармушкі для птушак зробленыя школьнікамі.

## ДА ЧЫТАЧОЎ

Паважаныя чытачы! Многія з вас прысылаюць у нашу рэдакцыю цікавыя матэрыялы з просьбай іх апублікавання. На жаль, мы не ўсе гэтыя матэрыялы можам надрукаваць, а гэта толькі таму, што яны не падпісаны, што няма канкрэтнага імя і прозвішча, а таксама мясцовасці. Такіх ананімных матэрыялаў мы не маем магчымасці праверыць і таму не друкуем.

Па просьбе аўтара мы можам падпісаць інфармацыю літарамі або нават псеўданімам, але рэдакцыя павінна ведаць, хто пісаў.

А вось некалькі прыкладаў. Прыйшоў ліст у «Ніву», у якім апісана дрэнная праца ў клубакаварні. Матэрыял цікавы, але не падпісаны канкрэтным прозвішчам. І таму яго не надрукуем, пакуль не будзем ведаць аўтара гэтага лісту. Маем у «Ніве» вельмі цікавы матэрыял пад загалоўкам «Хатняя вайна». Падпісаны ён толькі дзвюма літарамі Н. В. А гэта для нас замала. Рэдакцыя павінна ведаць, хто гэта пісаў. Рэдакцыя наша ананімаў не друкуе. Рэдакцыя гарантуе захаванне таямніцы імя і прозвішча аўтара лісту, але яна абавязкова павінна ведаць, хто гэта піша.

Рэдакцыя «Нівы»

## СМУТАК ПА РАДЗІМЕ

Хачу перадаць я вам думы свае
І боль свайго сэрца па старане,
Дзе я радзіўся, з дзяцінства дзе жыў
І скуль на чужыну за мора паплыў.

Мне сорам прызнацца, а мушу сказаць,
Я доўга не ведаў, дзе долю шукаць.
Дабра я не бачыў апроч бяды,
Ішлі безнадзейна за годам гады.

Думаў, што шчасце ўсё ж я знайду,
Калі ў Аргенціну, за мора пайду.
Не спадзяваўся я там сумаваць,
Бо цяжка было мне ў краю гараваць.

Але ў маім сэрцы каханне цвіло
Да роднага краю, народу свайго.
Да вёскі радзімай, да нівы, лясоў
У кожную б хвілю ляцець я гатоў,

Туды, дзе на ніве жыта расце,
Куколь і валошка, бярозка цвіце.
Памру, на магіле, у летні дзянёк
З красак любімых саўюць мне вянок.

Туды, дзе Купала думы тварыў,
Дзе слаўна народ наш фашыстаў граміў,
Дзе аб радзіме песні пяюць,
Дзе птушачы гоман, зязюлі куюць.

Вобразы радзімы ў думах мігцяць,
Імчацца далёка, за мора ляцяць.
Праз шыр акіяну не маю сіл плыць,
На мілай старонцы хацеў бы я жыць.

**Язэп Грыцук**

**Ад рэдакцыі: Я. Грыцук паходзіць з Валілаў, Беластоцкага павета. У Аргенціну выехаў у 1929 годзе. У сваім пісьме аўтар верша паведамляе, што спявае яго на мелодыю «Круціцца, верціцца» (Хіба маецца на думцы папулярная савецкая песня «Где эта улица, где этот дом»).**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Opowieść znad Donu" (radz.), 15—16. „O carski tron" (bułg.), 17—18. „Partyzant z Lilejskiej góry" (jugosł.), 19—20.

**Дубіны**

„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), „Miałem 19 lat" (NRD), 19—20.

**Нараўка**

„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż-Warszawa bez wizy" (polski(, 16—20.

**Нарва**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 16—20.

**Чыжы**

„Ubranie prawie nowe" (polski), „Wehikuł czasu" (USA), 16—20.

**Дубічы Царкоўныя**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 16—20.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za waszą i naszą wolność" (polski), 16—20.

**Орля**

„Jutro Meksyk" (polski), „Krew na śniegu" (jugosł.), 16—20.

**Райск**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 16120.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Trema" (USA), „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 15—18.

**Міхалова**

„Zwierzęta" (franc.), 15. „Szesnasta wiosna" (radz.), 16. „Gdzie jest trzeci król" (polski), 17—20.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„O życie dla Ruth" (angl.), 15—16. „Testament Agi" (węgierski), 17—18. „Arcylokaj" (franc.), 19—20.

**Шудзялава**

„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 16—20.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Krzyżacy" (polski), 16—20.

**Новы Двор**

„Głosuję na miłość" (jugosł.), „Pod karnawałową maską" (kubański), 19—20..

**Ліпск**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Deszcz padał na szczęście" (czeski), 19—20.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7028

# ЧАРГА

Каля такой вялізнай чаргі я не змог прайсці і, зразумела, спыніўся.

— Што даюць? — пацікавіўся я ў лысага мужчыны, які задумена стаяў у канцы чаргі і гартаў нейкую кнігу.

— Слана! — адказаў ён, не паварочваючы галавы.

— Слана? — здзівіўся я.

Мужчына павярнуўся і, паблажліва паглядзеўшы на мяне, дадаў:

— Індыйскі слон. Два рублі кілаграм. Не спрабавалі?

Я вінавата прамаўчаў (хто іх ведае, гэтыя сучасныя далікатэсы!) і стаў у чаргу, маланкава падлічваючы, колькі я змагу данесці сланіны і што лепей браць: хобат ці правае вуха? Але канчаткова я вырашыў не браць ні вуха, ні хобат, а ўзяць нагу, бо ў ёй больш костак, можна згатаваць халадзец.

Калі я прыйшоў да гэтай думкі, чарга падвоілася. У канцы яе ўжо гаварылі аб тым, што прадаюць сланіну (усяго па паўкіло) і што дастаўлена яна з Афрыкі.

Адразу ж я паспяшаўся туды і паспрабаваў растлумачыць, што індыйскія сланы ў Афрыцы не жывуць. І што калі іх прывезлі ў продаж, дык альбо з Індыі, альбо са звярынца і што слон — гэта не які-небудзь парсюк, і яго хопіць на ўсіх, так што хвалявацца не трэба.

Калі я вярнуўся на сваё месца, то сусед здзівіў мяне новым паведамленнем. Аказваецца, даюць не сланіну, а залатое цяля...

Я зірнуў на гадзіннік: прайшло ўжо дзве гадзіны. Што ж паробіш — пастаю і далей. Залатых цялят у мяне да гэтага не было. Значыць, падыдзе і цяляціна.

Уся чарга таксама не разыходзілася — залатых цялят не кожны дзень даюць.

— Іх усяго толькі штук дзесяць. На залатых прыіскіх пасвіліся, вось і нагрыталіся самародкаў, — даверліва паведамілі мне з канца чаргі.

Калі праз паўгадзіны, нарэшце, у поле майго зроку трапіў прылавак, я не ўбачыў на ім ні сланіны, ні цяляціны. Нават простай!

Я пацягнуў свайго суседа за рукаў і з'едліва спытаў:

— А што зараз даюць: кенгуру ў сумачцы, ці пазванкі з шыі жырафы?

— Траску свежамарожаную, і яшчэ... чуткі!

М. Баскін

# НІЎКА



— Цяпер, я думаю, госці доўга не засядзяцца...

### НЕ ВЕДАЕ

— Татачка, прышлі мне 1 000 крон. Сяджу зусім без грошай, — напісаў студэнт бацьку.

Праз некалькі дзён атрымлівае сто крон і адказ:

— Эх, сынок, сынок, ты столькі гадоў вучышся і да гэтага часу не ведаеш, што 100 пішацца з двума нулямі.

### Талавaломка

| | | |
|---|---|---|
| 7 | 10 | 13 |
| 22 | 26 | 30 |
| 4 | 9 | |

Упішыце ў пустое месца бракуючу цыфру.

Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 60 трохкутнікаў.

### Між намі

Рашылі развесціся, бо ўжо не было чаго сказаць адзін аднаму. І спрачаліся аб гэтым да хрыпаты.

### ХТО

— У мінулым квартале па статыстыцы кожны грамадзянін паглядзеў адзінаццаць фільмаў...

— А я толькі тры! Дык які ж гэта нахабнік ходзіць замест мяне ў кіно?!

### ШТО ТАКОЕ ВЯСЕЛЛЕ?

— Што такое вяселле? — запыталі аднойчы ў маладога чалавека, які ажаніўся.

— Памінкі па халасцяцкаму жыццю, — адказаў той.

### ЗАБЫЎСЯ НАПОМНІЦЬ

— Чаму ты сёння ў школу не пайшоў? — запытаўся бацька ў сына.

— Ты павінен быў пайсці разам са мною да дырэктара школы, але я забыўся табе напомніць.

### ЯКІЯ

— О, якія дзяўчаты былі дваццаць год назад!

— Ну, вядома, цяпер яны пастарэлі прынамсі гадоў на дзесяць.

### ЧАМУ

— Пані, вы разводзіцеся са сваім мужам?

— Так. Мне абрыдла ўвесь час быць адной.

### КАГО ПАШКАДАВАЎ

Разбойнікі злавілі на лясной дарозе скнарага купца. Грошай з сабою ў таго купца не было, а падпісваць банкаўскі чэк купец наадрэз адмовіўся. Тады разбойнікі падвялі небараку да вялізнага мурашніка з чырвонымі мурашкамі і пачалі распранаць.

Спалохаўшыся, што яго пасадзяць у мурашнік, купец падпісаў усё, што ад яго патрабавалі.

А сарокі разнеслі па лесе небывалую вестку: маўляў, бачылі дзіўнага чалавека, які з жаласці, каб не падавіць маленькіх мурашак, ахвяраваў нават сваімі грашыма.

Г. Кундас

### ТАКІЯ БОТЫ

Пеця прыгожы мае боты,
Аж па халявах ходзіць цень.
Не накладае да работы,
Толькі ў святочны носіць дзень.

Пад ручку йдзе з сваёй «супругай»,
І галіфэ ў яго на кант.
Не толькі ў вёсцы, на акругу
З яго фарсісты элегант!

Ужо на дварэ прыціхлі сцюжы,
І раўчакамі снег бяжыць,
Пеця праходзіць каля лужы,
Прыемна ботамі рыпіць.

Вацік Асіповіч



Усё людское нам не чужое.



— Уладзік, прачніся!
— Хіба сход ужо кончыўся?

# GDYBYŚ KOCHAŁ, HEJ

(Z repertuaru zespołu „Breakout")

Muzyka: Tadeusz Nalepa
Słowa: Jacek Grań

Gdybyś lubił mnie choć trochę, hej,
gdybyś kochał, jak nie kochasz mnie,
gdybyś nie był jaki jesteś,
zechciał, tak jak nie chcesz mnie,
byłbyś wiatrem, a ja polem, hej,
byłbyś niebem, ja topolą, hej,
byłbyś słońcem a ja cieniem,
gdybyś tylko zmienił się!

Gdybyś nie śnił mi się w nocy, hej,
gdybyś dał mnie wreszcie spokój, hej,
może bym ci darowała
może zapomniałabym...
Gdybyś lubił mnie choć trochę, hej,
gdybyś kochał, jak nie kochasz mnie,
gdybyś nie był, jaki jesteś,
zechciał, tak jak nie chcesz mnie!



### УСЁ РОЎНА

— Афіцыянт, безалкагольны напітак, калі ласка! — просіць шафёр.

— Рад служыць! Што заказваеце: мінеральную, содавую, ліманад, квас, морс або сітро?

— Усё роўна, я ў гэтай галіне пачынаючы!

# Курёзы

### Незакончаная вайна

Страшнае адкрыццё зрабіў галоўны архіварыус княства Ліхтэнштэйн. Аказваецца, гэтая дзяржава, якая знаходзіцца паміж Швейцарыяй і Аўстрыяй і налічвае 15.000 жыхароў, знаходзіцца цяпер у стане вайны з Прусіяй. У 1866 годзе Ліхтэнштэйн уступіў у вайну супроць Прусіі на баку Аўстрыі і выставіў тады армію ў 66 чалавек. Пазней прусакі падпісалі з Аўстрыяй мірны дагавор, а вось з Ліхтэнштэйнам памірыцца забыліся. Ліхтэнштэйнцы не маюць нічога супраць міру з Прусіяй, але Прускай дзяржавы даўно ўжо няма.

(я)

### Замоўкла гармата



Улады індыйскага гарадка Арон па просьбе насельніцтва нарэшце адмянілі адну мясцовую традыцыю. Гэта традыцыя была апошняй прывілеяй мясцовага махараджы, а ад роду ёй было трыста гадоў. На працягу ўсіх гэтых год роўна ў тры гадзіны ночы са сцяны крэпасці Арон бухала гармата і глашатай зычным голасам крычаў: «Цішэй! Яго высокасць спіць!»

### Над золатам чахнуць

Часопіс «Магазін» (ГДР) паведаміў, што ў Англіі пачалі шукаць золата там, дзе да гэтага яго ніхто не шукаў — у жаночых валасах. Цяжка сказаць, што штурхнула навуковых супрацоўнікаў Брытанскага атамнага цэнтра ў Олдэрмстоне на гэтыя пошукі — жаданне памагчы фунту стэрлінгаў ці проста цікавасць, але факт застаецца фактам. Было ўзята 800 проб! Золата знайшлі, але «у колькасці, якая недастаткова для прамысловай распрацоўкі». Англічанкі могуць не турбавацца за свае прычоскі.